# БЕЛАРУС

Выдае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне у ЗША
Published by Byelorussian - American Association, Inc.
Address — Адрыс: Byelorussian-American Association, Inc.
435 New Jersey Ave, Brooklyn 7, N. Y., U. S. A.
Падпіска на год $ 2.50 — Subscription per year — $ 2.50
Рэдагуе Рэдакцыйная Калегія

PRICE 10 ¢ ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ У З. Г. А. BYELARUS — WHITERUTHENIAN (BYELORUSSIAN) NEWSPAPER IN THE USA 10 ЦЭНТАЎ

Год IV. № 11 (35) 1 Чырвеня 1953 г. NEW YORK, N. Y., U. S. A. June 1, 1953 Vol. IV № 11 (35)

## Маленкаў - Бэрыя - Жукаў

Палітыка крывавае бальшавіцкае дыктатуры вучыць нас, што ў Палітбюры, ніколі ня было аднадумнасьці, паразуменьня й згоды што да спосабаў паняволеньня сьвету. Сам дыктатар Сталін ніколі поўнасьцю не давяраў навет сваім найбліжэйшым супрацоўнікам. Ягоная сіла была ў ягонай вялікай хітрасьці й жорсткасьці. У гэтым сэнсе зь ім не маглі зраўнацца ніякія ягоныя апазыцыянэры, пачынаючы ад Троцкага й канчаючы Жданавым. І нам здаецца, што ўрэшце рэштаў яго перахітрыў толькі ягоны зямляк — Бэрыя. Але на гэта злажылася шмат прычынаў.

Адной з галоўных прычынаў удачы гэтага „дастойнага" спадкаемцы сваіх папярэднікаў — Ягоды й Яжова было тое, што Сталін ужо ад даўжэйшага часу, дзеля веку, хваробаў, мусіў часта адведваць свае курорты на Чорным моры й ня мог быць дастаткова „бдительным" сам у дачыненьні магчымае здрады.

Здавалася-б, што пасьля ўдалае ліквідацыі Троцкага-Бухарына-Зіноўева-Тухачэўскага й іншых на Савецкім Алімпе не засталося ўжо здраднікаў, бо рэшта супрацоўнікаў дыктатара былі ягонымі найвярнейшымі нявольнікамі, асабліва гэткі Маленкаў, або Бэрыя. У тэорыі яно так і было. Але жыцьцё мацнейшае за ўсе камуністычныя тэорыі. Пакуль Сталін быў на вяршынях свае крывавае „славы", ягоныя супрацоўнікі стараліся толькі як найвярней служыць яму. Накш сталася, калі паўстала ўжо канкрэтнае пытаньне аб ягоным наступніку. Тут палажэньне грунтоўна зьмянілася, бо такіх кандыдатаў знайшлося больш. Кажны зь іх пачаў забясьпечваць свае пазыцыі. Яшчэ так нядаўна ўся міжнародная прэса ўважала, што наступнікам Сталіна будзе Жданаў. І трэба сказаць, што й сам Жданаў быў „навукова" пераканены ў гэтым, ды пачаў ўжо навет будаваць сабе належную базу па партыйнай лініі не толькі ў СССР, але й на грунце Камінформу ў дзяржавах-сатэлітах. Для поўнае свае перамогі й забясьпечаньня свае адзінае кандыдатуры ў „насьледнікі", ён навет узяў быў у свае рукі кіравецтва няўдалай грэцкай авантурай.

Гэтую няўдачу Жданава вельмі, наадварот, удала выкарыстаў другі кандыдат у „насьледнікі" — Маленкаў і... Жданаў быў з ганарамі пахаваны, бо раптам „памёр!" Маленкаў заняў мейсца Жданава ў ЦК партыі. Савецкая прэса пачала хваліць Маленкава. Сам-жа ён, ведаючы добра з практыкі, што ключавой пазыцыяй дыктатарства зьяўляецца МВД, узяўся за інтрыгі, каб пасадзіць на месца Бэрыі свайго даверанага чалавека, а яго самога пасадзіць сьледам за Жданавым.

Разгарэлася новая акцыя. Савецкая прэса ўшчала адкрыты паход супраць Бэрыі, абвінавачваючы яго ў адсутнасьці „бдительности". Афіцыйна, Маленкаў ня меў нічога супольнага з гэтай акцыяй, пачаў яе, быццам, Паскробышаў, асабісты сакратар Сталіна. Аднак, лёгіка савецкае рэчаіснасьці кажа, што калі-б Сталін запраўды захацеў зьнішчыць Бэрыю, ён мог зрабіць гэта не арыштоўваючы дактароў, а проста зьнішчыць яго так, як у свой час зьнішчыў Ягоду, Яжова ды навет Орджонкідзе. Апрача таго, пазьнейшае зваляньне Маленкава з функцыі генэральнага сакратара ЦК партыі ясна гаварыць, што гэта была кара за ягоныя „грахі" перад Бэрыяй, які добра разумеў, хто быў галоўным артыстым у ўсёй справе. Але Бэрыя зажадаў яшчэ й поўнае гаранцыі свае „недатыкальнасьці" на будучыню — ўлады над усімі сіламі паліцыйнага тэрору, і Маленкаў скапітуляваў, бо іначай мог і сам пайсьці сьледам Жданава і... Сталіна. І ён выйграў бой. Ён цяпер шмат мацнейшы за Маленкава, бо пазваляе яму іграць ролю „спадкаемцы" Сталіна, але ... з ласкі! Маленкаў гэта добра разумее, таму не перашкаджае тымчасам Бэрыі ўзмацняць свае пазыцыі. Адным із спосабаў згаданага памацненьня было выкарыстаньне Бэрыяй.. Канстытуцыі, каб „законна" ліквідаваць сваіх былых ці магчымых ворагаў, а на іх мейсца пасадзіць такіх жа самых чэкістых, але сваіх прыяцеляў. Маленкаў усё гэта бачыць, скрыгочучы зубамі, але зрабіць нічога ня можа Ён намагаецца адно памацніць свой аўтарытэт „мірнай" палітыкай на вонкавым і „амністыяй" на нутраным фронце, уважаючы, што ягоны час яшчэ прыйдзе.

Тымчасам, шмат **выпадкаў** сьветчыць аб тым, што справы за зелезнай заслонай і зусім благія... Сьветчыць аб гэтым прыкладам, тое, што сучасныя валадары Крамля паклікалі да свае злачынные хэўры прадстаўніка арміі — Жукава, які яшчэ так нядаўна быў, фактычна, на выгнаньні. Можа гэтае пакліканьне зьяўляецца сілаю гэтых валадароў ды выразам іхнага даверу да арміі? Наадварот. Сталін праз усё сваё жыцьцё не давяраў арміі, зьліквідаваў безьліч маршалаў, ды генэралаў. І калі ён не зьліквідаваў Жукава й сотні іншых генэралаў ды тысячы афіцэраў пасьля апошняе вайны, дык толькі таму, што меў на ўвазе новую хуткую вайну. Гэткі самюсенькі „давер" да арміі маюць і сучасныя крамлёўскія валадары. Кажны з іх хоча аднаго. — каб армія была й далей пад іхняй кантроляй.

Трэба думаць, што запраўдныя савецкія генералы, тым больш такі Жукаў, бяручы гэта на ўвагу, ня могуць не пачуваць сябе пакрыўджанымі, і таксама ня могуць мець даверу да сучасных сваіх гаспадароў. У выніку — тут можам чакаць розных неспадзеўкаў, бо спэцыфічныя ўмовы жыцьця арміі часта супярэчаць партыйнай лініі й ейным мэтам. Раней гэткая „няўвязка" між Палітбюро і Камандаваньнем арміі скончылася-б масавай ліквідацыяй камандзераў. Цяперашняе Палітбюро ўжо ня можа сабе на гэта дазволіць. Вось яно й паклікала Жукава да сябе, каб стала мець яго, а празь яго й іншых, вышэйшых прынамсі, камандзераў, на воку.

З іншага боку, савецкія генэралы пазналі апошнімі гадамі эўрапэйскую армію, асабліва амэрыканскую й зразумелі, што савецкая армія ніколі не зраўняецца зь ёю технічна й таму будучыя канфлікты могуць скончыцца толькі катастрофаю, асабліва калі гэтая заходняя армія выступіць з лёзунгамі свабоды для народаў СССР, чаго, паводля ген. Талбухіна, гэтак баяўся Савецкі генэральны штаб за часоў Гітлера. Партыя-ж думае іншымі катэгорыямі, яна імкнецца да сусьветнае рэвалюцыі, прынесенай сьвету на савецкіх штыках. Але лёгіка жыцьця мацнейшая за ўсякія жаданьні ці амбіцыі. Таму ня выключана, што камбінацыя Маленкаў-Бэрыя-Жукаў аднаго прыгожага дня затрашчыць, і ўся „непарушная" сьцяна савецкае тыраніі рассыплецца, як пясок. І трэба толькі жадаць, каб гэта сталася якнайхутчэй.

**С. Клім**

## »Няма ні старэйшых, ні малодшых«

### (АБ Г. ЗВ. „РОЎНАСЬЦІ" НАРОДАЎ САВЕЦКАГА САЮЗУ)

Калі расейская г. зв. „белая" эміграцыя адмоўна ставіцца да аднаўленьня незалежных дзяржаваў нерасейскіх народаў, гвалтам паняволеных продкамі згаданых эмігрантаў, дык „чырвоныя" расейцы, а трэба сказаць, што іх шмат ёсьць і на Захадзе, усюды й заўсёды даводзяць, што пытаньне нацыянальнае незалежнасьці ў сучасным Савецкім Саюзе даўно вырашана паводле „волі народаў" і таму не падлягае ніякім далейшым абмяркаваньням.

Як цьвердзяць маскоўскія бальшавікі „усе народы СССР маюць аднолькавы голас і правы. Няма ні старэйшых, ні малодшых... і г. д." І дарэмна пераконваць сяньня, што наўсуперак гэтаму афіцыйнаму цьвярджаньню расейцы ў СССР усё-ж, як ня круці, „старэйшыя браты", бо напр. яны маюць свой расейскі дзяржаўны тэатр у нашым Менску, тады як беларускага няма ня толькі ў Маскве, але навет у Смаленску, дзе беларусаў, спрадвечных гаспадароў гэтае акругі, непараўнальна больш, чымся расейцаў. Дарэмна прыгадваць ім таксама, што пасьля заняцьця Саветамі Заходняй Беларусі шыльды ў польскай мове былі заменены не беларускімі, як трэба было спадзявацца, а шыльдамі ў расейскай мове. Або што вуліцы імя Гэнрыка Сянкевіча былі пераназваныя ў вуліцы Максіма Горкага, але ня Коласа, ня Купалы... Навет больш: апошнія здымкі й апісаньні амэрыканскіх журналістых, якія былі наведалі кагадзе Савецкі Саюз, сьветчаць, што яны знайшлі Расею, а не Беларусь ужо ў Берасьці, хоць ад гэтага места да межаў Расеі лічыцца больш за 1000 кіл.! Іхныя здымкі берасьцейскіх шыльдаў у расейскай мове, зьмешчаныя ў амэрыканскіх часапісах, гавораць вельмі выразна аб палажэньні ў сучаснай „незалежнай" Беларусі. Аднак, Крэмль упарта паўтарае, што Беларусь „незалежная" дзяржава, хоць Расея й пачынаецца ...ужо ў Берасьці. Верыць у гэта шмат хто й на Захадзе. І на гэта няма рады. Хрыстос нявернаму Тамашу загадаў быў даткнуцца рукамі да сваіх крывавых ранаў, каб той пераканаўся й паверыў... На скрываўленую і ўкрыжаваную Беларусь нельга пакласьці сяньня ня толькі пальца, але нат і глянуць, бо яе хаваюць ад людзкога вока нязьлічаныя савецкія законы, на чале з ганебным законам аб недапушчаньні чужынцаў у сталіцу Беларусі Менск.

Згаданымі колькімі прыкладамі аб „роўнасьці" народаў СССР можна было-б ужо й скончыць наш артыкул, каб апошнім часам не зьявіліся былі яшчэ іншыя „Тамашы", якім удалося пабачыць запраўднае аблічча й зьмест краіны, схаванай за зялезнай заслонай і чатырма літарамі СССР і якія, аднак, не патрапілі з гэтае нагоды скарыстаць, як належыць.

Гэтак, у 364 нумары польскага тыднёвіка „Вядомосьці" ад 22-га сакавіка г. г. надрукаваны быў артыкул Язэпа Мацкевіча, у якім аўтар даводзіць, што ў „Савецкім Саюзе няма ніякага антысэмітызму, што там, зрэшты, яго й быць ня можа, бо „ў СССР ня існуе зусім ані расавая, ані нацыянальная дыскрымінацыя..."

Памінаючы пытаньне, ці існуе ў СССР антысэмітызм ці не, бо гэтае пытаньне, дарма, ці не шыбеніцы з павешанымі жыдамі ў Празе, вымагае усё-ж довадаў, спынімся на другім цьверджаньні аўтара, што... „у Савецкім Саюзе няма ні расавае, ні нацыянальнае дыскрымінацыі..., бо гэта супярэчыць самым ідэям камунізму, які будуе жыцьцё паводле сказу: нацыянальнае па форме, а „сацыялістычнае па зьмесьце". Аднак, аўтар шырэй ня выясьніў, на якой базе будуюць Саветы згаданае жыцьцё. А гэта вартае увагі.

Вось-жа, няма сумлеву, што Саветы перанялі ўсю культурна-традыцыйную спадчыну былое царскае Расеі, пачаўшы ад мовы, праз літаратуру й музыку да гэтых рэчаў, як афіцэрскія пагоны. Ні адна пядзя этнаграфічнае расейскае зямлі ня была прыдзелена якой-колечы савецкай нерасейскай рэспубліцы. Затое землі нерасейскіх рэспублікаў і аўтаномных акругаў прылучаліся да РСФСР ў кажнай жаданай колькасьці.

Ні адзін з сучасных тэарэтыкаў „сацыялістычнага зьместу" новае расейскае імпэрыі ніколі й нідзе не запярэчыў, што СССР — гэта не даўнейшая Расея, а нешта новае, немагчымае да ахапленьня гэтым словам. Ніхто пальцам не крануў Аляксандра Пракоф'ева за ягоную наскрозь антысацыялістычную, шавіністычную паэму „Расея", хоць украінскі пісьменьнік У. Сасюра ледзь выратаваўся ад пятлі за верш „Любіць Україну".

Наагул, усе прыклады расавае й нацыянальнае дыскрымінацыі, праводжанай сучаснымі валадарамі Расеі ня могуць быць ахопленыя газэтным артыкулам. Каб прыгадаць іх усе, — не хапіла-б колькіх таўстых тамоў. Але праверыць „сацыялістычны" зьмест сучаснага СССР можа кажны жыхар Захаду, узяўшы ў рукі каталёг паштовых марак СССР. Вось іхныя „сацыялісты": Ламаносаў, Папоў, Горкі, Фёдараў, Мендзелееў, Талстой, Дабралюбаў, Пушкін, Салтыкоў — Шчэдрын, Лермантаў, Чэрнышэўскі, Тургенеў, Рэпнін, Крылоў, Грыбаедаў, Маякоўскі, Цімiразеў, Чайкоўскі, Жукоўскі, Кутузаў, **Сувораў** і цэлы шэраг іншых расейцаў, падобных паводле „сацыялістычнага зьместу" да Кутузава ці Суворава. Тыя-ж народы, якім, як цьвердзіць аўтар артыкулу, зьмешчанага ў польскіх „Вядомосьцях", „бальшавікі далі школы"... прадстаўленыя ў каталёгу адно трымя іменамі: Руставэлі, Навоі ды Шэўчэнка. Дзе-ж рэшта? Ці іх ня было? Дзе-ж, памінаючы іншых, нашыя Сымон Полацкі, Францiш Скарына, у якога вучыўся Фёдараў, дзе Багушэвіч, Каліноўскі, Багдановіч, Колас, Купала й рэшта нашых нацыянальных герояў, як і герояў іншых рэспублікаў, што уваходзяць сяньня ў склад Савецкага Саюзу? Яны ёсьць, але яны, на жаль... не расейцы й таму нявартыя гутаркі. Калі хто не лянуецца, дык мог бы, на ўзьверх, праверыць і назвы савецкіх ардэноў імя гэткіх „сацыялістых" як Аляксандар Неўскі, Кутузаў, Сувораў, Нахімаў, Ушакоў... якія нічога, апрача пятлі й кулі ня прынесьлі ні аднаму нерасейскаму народу!

І таму праўду кажуць знаўцы сучаснасьці СССР, якіх, на жаль, на Захадзе ня гэтак ужо шмат, што Савецкі Саюз зьяўляецца прадаўжальнікам усіх традыцыяў старое Расеі.

**М. Вярба.**

## *АДВЕЧНАЯ ДЭМАКРАЦЫЯ*

Прыглядаючыся ад некалькіх ужо гадоў да асноваў амэрыканскай дэмакрацыі зблізка, да ейнай нацыянальнай, расавай і рэлігійнай талерантнасьці, да тых моцных традыцыяў народаўладзтва й пашаны волі, якія жывуць у амэрыканскім народзе ад пары Вашынгтона й самых пачаткаў дзяржаўнай незалежнасьці, прыходзіць нраз на думку й нашае гісторыі ды паўстае пытаньне: якая-ж аснаўная рыса-асаблівасьць у грамадзка-палітычным жыцьці беларускага народу, выяўленая ім напрацягу доўгіх стагодзьдзяў ягонага гістарычнага жыцьця?

Характэрна, што ад самага сьвітаньня гістарычных дзён на нашых землях, у справах кіраўніцтва першымі ведамымі дзяржаўна-палітычнымі асяродкамі — тагачаснымі незалежнымі княствамі — бярэ дзейны й вырашальны ўдзел сам народ праз свае вечы. Наш першы выдатны дзяржаўны арганізм — Полацкае княства крывічоў — кіраваўся не неабмежанаю княжэўскаю воляю, а дэмакратычнымі пастановамі народнага веча, якія абавязвалі й князя.

І чужыя гісторыкі падчыркваюць зыркі факт, што й такі магутны ды выдатны Полацкі князь, як Усяслаў Вялікі, у адваротнасьць князём кіяўскім, абапіраўся таксама заўсёды на народзе, на народным вечы, і што ў гэтым была аснаўная крыніца ягонае моцы.

Ды й у пазьнейшыя вякі, у пару Вялікага Княства Літоўскага, улада вялікага князя-гаспадара ніколі ня прыймала ў нас формаў нейкага дэспатычнага самадзяржаў'я. Вялікі князь у нас выступаў заўсёды толькі як найвышшы **гаспадар** (тытул гэткі ён насіў і афіцыйна), а ніколі, як жорсткі тыран.

Згодна з такім палажэньнем і дачыненьні між валадаром і падданымі нармалізаваліся у нас адпаведнымі законамі, якія з аднаго стараны азначаюць ды гарантуюць правы грамадзян-жыхароў дзяржавы, а з другой, адначасна, кладуць і ясныя межы самой волі князя-гаспадара, каб яна не перарадзілася ў самаволю.

Вось такі стан быў і прычынаю таго, што ў нас заўсёды клаўся вялікі націск на справу магчыма яснага праўнага ўнармаваньня дзяржаўна-палітычнага ладу, на належную распрацоўку законаў ды на складаньне сыстэматычных кодэксаў. Дзеля гэтага й права ў нас ужо вельмі рана разьвілося куды вышэй, чымся у суседніх Маскоўшчыне, Польшчы ды ўсёй Усходняй Эўропе, а ў другой палавіне XVI ст. яно дайшло было да найвышэйшай ступені свае дасканаласьці й завяршэньня ў ведамым Статуце Вялікага Княства Літоўскага.

Гэтак, праз доўгія вякі сваёй гісторыі беларускі народ праяўляў глыбокую нутраную сьведамасьць таго, што дабраволна сарганізаваная й законамі здысьцыплінаваная грамада стаіць заўсёды вышэй за масу, задзіночаную толькі жорсткаю воляю дэспата. Вось гэтым беларускі народ рэзка розьніўся ад суседняй Маскоўшчыны з традыцыйным самадзяржаўным дэспатызмам. Розьніўся ён і ад Польшчы зь ейным нахілам да безадказнай анархіі. Тыповаю праз вякі для Польшчы была, як ведама, шляхоцкая самаволя. „Польска нежондэм стоі" — няраз пыхліва ганарылася некалі безадказная польская шляхта.

У адваротнасьць вось гэтым дзьвюм скрайнасьцям наш грамадзка-дзяржаўны лад і пары Полацкага княства, і Вялікага Княства Літоўскага, праяўляе выдатную, як на тагачасную фэадальную пару, насычанасьць дэмакратычнымі прынцыпамі. Беларускі



© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

## Адвечная дэмакрацыя

народ праз усе вякі свайго дзяржаўнага жыцьця меў нахіл да грамадзка-палітычнага ладу супроцьлежнага й раскладальнаму хаосу заходняй шляхоцкай анархіі і ўсходняга эўразыйскага дэспатызму, які, яшчэ ў значна ўзьвялічанай ступені праяўляецца сяньня й у бальшавіцкіх камісараў Масквы.

Пашана да правоў чалавека й талерантнасьць праявілася ў нас і ў рэлігійным жыцьці, ды ў дачыненьнях беларускага народу да народаў іншых. У нас рэлігійныя розьніцы ды спрэчкі ніколі не пераходзілі ў крывавыя братагубныя змаганьні, як гэта бывала ў сваю пару ў шмат якіх краінах Захаду.

Ведамая рэч, прыкладам, што праз першыя чатыры вякі свайго хрысьціянства, беларускі народ жыў у поўнай суладнасьці й згодзе з суседнімі паганскімі балцкімі плямёнамі. Нашым прашчурам праз гэтыя даўгія стагодзьдзі ніколі ня прыйшло на думку, каб арганізаваць супроць іх нейкія крыжавыя паходы, каб наварачваць сілком на хрысьціянства, каб, нашыўшы крыж на сьцягі, накідаць ім сваю веру мячом, агнём ды морам пралітае крыві, як да гэтага дадумаліся былі неўзабаве нямецкія ордэны крыжакоў ды мечаносаў.

Таксама й чужанацыянальныя ды іншаверныя жыды ня толькі знайшлі ў нас „прыпынак, страву ды начлег", але й пад аховаю роўных правоў да талерантнасьці перажывалі ў Беларусі пару свайго эканамічнага дабрабыту ды культурнага красаваньня так доўга, як доўга беларускі народ быў гаспадарам сваёй зямлі ды мог гарантаваць ім свабоду веры, звычаяў і супакой. І ў дачыненьні жыдоў беларускі народ ніколі не „дадумаўся" быў да гвалтаў ды пагромаў, — няслаўных вынаходаў некаторых нашых суседзяў.

Знайшлі прыпынак, ахову ды супакой на беларускіх землях і іншыя малыя, пакрыўджаныя народы ды групы, як караімы, татары, расейскія стараверы, што ратавалі свабоду сумленьня ды жыцьцё ўцёкамі да нас ад рэлігійнага праследу сваіх-жа маскоўскіх суродзічаў.

Нажаль, дух польскай анархіі, які разам з палянізацыяй прасачыўся да нас у XVII — XVIII ст. ст. падарваў здаровыя некалі дэмакратычныя асновы нашага грамадзкага ладу, паслабіў сілу палітычную, і прыгатаваў грунт да прыходу другой антыдэмакратычнай сілы з усходу, дэспатызму, які ў канцы й праглынуў усе беларускія землі.

Але гэта, як і даўгое чужое паняваньне ў Беларусі наагул, ні ў якім выпадку не заглушыла ці зьнішчыла адвечную рысу характару беларускага народу — ягоную пашану да іншых, ягоную талерантнасьць, ягоную прыродную дэмакрацыю. Найлепшыя довады на гэта далі гады нядаўна мінулае вайны.

Калі з загаду Гітлера немцы праводзілі крывавае пагалоўнае вынішчаньне жыдоўскага жыхарства на землях Беларусі, дык рабілі гэта яны або самі, або карысталіся часам з помачы іншанацыянальных аддзелаў, але ніколі не аддзеламі беларускімі, пра настроі якіх добра ведалі. Нямецкія арганізатары масавых жыдоўскіх забойстваў жаліліся Гімлеру на тое, што ў сваёй супроцьжыдоўскай дзейнасьці яны ня могуць аперціся на жыхарства Беларусі, бо яно „лічыць жыдоў за роўных сабе людзей"! Дзеля гэтага й арганізаваць антыжыдоўскія пагромы немцам у нас неўдалося.

Нямецкія рапарты, падобныя згаданаму, якія захаваліся для гісторыі, найлепшыя дакумэнты-сьветкі таго, што й доўгае панаваньне чужых панявольнікаў незаглушыла ў беларускім народзе ягонай адвечнай рысы — людзкой талерантнасьці. І гэта зарука таго, што й у будучай вольнай Беларусі запануе права й лад, ды што наш край ізноў стане апораю дэмакрацыі на Усходзе Эўропы, як быў ужо ёю праз доўгія вякі сваёй мінулай слаўнай гісторыі.

Б.

М. Кургановіч

# Камунізм нельга паустрымаць - яго трэба зьнішчыць

**Як пачаць арганізоўваць хаўрусьнікаў ЗША — Усходня-Эўрапэйскія народы?**

Як бы гучна не ўсхвалялі амэрыканцы гэтак званую глябальную (сусьветную) палітыку абароны, з чыста прыродных прычынаў вонкавая палітыка ЗША заўсёды была і заўсёды будзе сканцэнтраваная ў першую чаргу на Эўропе, зь якою Амэрыка зьвязаная кроўнасьцю, — кажа Джэмс Бэрнгэм у сваёй кнізе.

Але, дадае аўтар, амэрыканцы, пасьля другой сусьветнай вайны стала памыляюцца, гаворачы аб Эўропе, бо ў сваіх разьліках спадзяюцца толькі на вольныя яшчэ народы ў гэтак званай Заходняй Эўропе. Да тае Эўропы, якая „зьвязаная з ЗША конам", аднак належаць таксама й народы, якія знайходзяцца сяньня па той бок зялезнае заслоны.

Ня гледзячы на гэта, на канфэрэнцыях „усяе Эўропы" удзельнічаюць толькі прадстаўнікі захаду. У так званай радзе „Эўропы" ў Штразбургу прамаўляюць толькі заходнікі, а калі ЗША асыгнуе сродкі „дапамогі Эўропе", дык усё даецца толькі заходнікам і нічога не прадбачыцца ўсходу Эўропы.

Праўда, — падае Бэрнгэм, — гэткае становішча апраўдваюць тым, што народы ўсходу Эўропы падпарадкаваныя цяпер кантролю Масквы і, што навет тады, калі-б Крэмль дазволіў гэтым народам увайсьці ў агульнаэўрапэйскія пачынаньні, дык гэтым прыслужыліся-б адно бальшавікам, а ня вольнаму сьвету.

Але, — адказвае аўтар, — ці-ж ня ведама, што прынамсі некаторыя народы Усходняе Эўропы маюць свае законныя прадстаўніцтвы ў вольных краінах? Ці прызначаны маскоўскім акупантам урад гэтак званае БССР, прадстаўнік якога сядзіць у Задзіночаных Нацыях з роўным голасам з усімі іншымі народамі сьвету, мае большае права, чымся прадстаўнікі экзыльнага ўраду Беларускае Народнае Рэспублікі? Або, ці нельга дапусьціць, што ў ваенных дачыненьнях гэнэрал Бор-Камароўскі шмат больш рэпрэзэнтуе палякаў, чымся прадстаўнік Масквы Ракасоўскі?

Чаму, — працягвае Бэрнгэм, — ня даць магчымасьць усім народам Усходняе Эўропы праз пасярэдніцтва сваіх вольных прадстаўніцтваў прыймаць удзел ува ўсіх прадпрыемствах, мэтай якіх — узмацненьне Эўропы? Чаму яны не засядаюць у камітэтах, на канфэрэнцыях і ў штабох ды чаму ім не даецца іхняя доля дапамогі? Чаму ў арміі Эўропы не прадбачаныя войскі палякаў, румынцаў, БЕЛАРУСАЎ, чэхаў, украінцаў, ды й расейцаў, як і войскі французаў, немцаў ды італьянцаў? Зь якіх прычынаў, у штаб гэтак званай арміі Эўропы ці НЭТО ня прынятыя гэраічныя ваякі Усходняе Эўропы? Якія довады могуць быць высуненыя супраць удзелу вольных прадстаўнікоў Усходняе Эўропы ў працы Рады Эўропы, калі гэтая праца пакуль што скіраваная галоўным чынам толькі на прапаганду ідэі?"

Адзіны адказ на ўсё гэта, — кажа Бэрнгэм, — той, што арганізатары ўсіх згаданых пачынаньняў і надалей загразьлі ў балоце памылковае палітыкі „паўстрыманьня". Яны баяцца зачапіць СССР.

А практычны вынік з гэтага той, што народы Усходняе Эўропы, удзел якіх у актыўнай барацьбе супраць камунізму першы і галоўнейшы абавязак Захаду, цяпер на справе ўсё глыбей пхаюцца ў абыймы Масквы.

Дасюлешнюю пазыцыю ўва ўсіх успомненых пытаньнях народаў Усходняе Эўропы, якія лятуцяць аб вызваленьні ад бальшавіцкага ярма, аніяк нельга вытлумачыць накш, як толькі сказам, што захад пакінуў іх на волю конч ды што вольныя краіны на чале з ЗША і надалей гатовыя пагадзіцца з Крамлём, пакідаючы непарушнымі тыя межы СССР, якія заіснавалі пасьля 1947 ці навет пасьля 1949 году.

Гэта, — падчырківае Бэрнгэм, — і ёсьць якраз тое, чаго хоча Крэмль. Увесь час пасьля другой сусьветнае вайны Крэмль толькі й рабіў, што палохаў захад магчымасьцямі новае вайны й рабіў усё што мог, каб лякальнымі канфліктамі адцягнуць увагу вольнага сьвету ад пачынаньняў, якія для бальшавікоў запраўды істотныя.

Галоўнай справаю з гледзішча Крамля зьяўляецца на сяньня замацаваньне панаваньня бальшавізму ўнутры тых вялікіх абшараў, якія ён захапіў пасьля сусьветнай вайны й дзе сяньня пад ягоным ярмом пакутуе 800.000.000 чалавек, што ўсьцяж яшчэ не скарыліся да рэшты волі Крамля. Вышэйшае кіраўніцтва Масквы ў запраўднасьці зацікаўлена сяньня, толькі ў аднэй справе — мець час дзеля паняволеньня й канчальнага „перавыхаваньня" гэтых народаў. Важнейшы сяродак дзеля асягненьня гэтае мэты — чысткі на прасторах СССР і гэнасыд у пазьней далучаных да яго краінах.

Крэмль, — цьвердзіць Бэрнгэм, — вельмі добра ведае што калі яму ўдасца зламаць супраціў на вялікай частцы ужо паняволенага ім Эўразійскага кантынэнту, дык далейшы пераможны паход бальшавізму будзе толькі пытаньнем часу. Пры гэтым, — кажа аўтар, — калі захад прычыніцца, праз сваю бязьдзейнасьць, да канчальнага ўмацаваньня бальшавізму на захопленым сяньня абшары, дык усе далейшыя спробы супроцьставіцца яму — будуць зусім надарэмныя.

Калі-ж бязьдзейнасьць гэтая працягнецца яшчэ даўжэй, — папераджае Бэрнгэм, — загуба заходняе цывілізацыі будзе няўхільнай. Таму неадкладна трэба перайсьці ад палітыкі „паўстрыманьня" да палітыкі вызваленьня народаў. А ў аснову гэтае новае палітыкі, на ягоную думку, мусіць быць пакладзеная руплівa апрацаваная „Стратэгія Усходняе Эўропы", у якой значнае месца аддаецца й нашай Бацькаўшчыне-Беларусі.

(У наступным № — „Стратэгія Усходняе Эўропы")

## СЬВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ АРМЕНІІ

У нядзелю 24 траўня г. г. Армянская калёнія ў Ню-Ёрку ўрачыста адсьвяткавала 35-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Армянскае Рэспублікі, прагалошанай 18 траўня 1918 г.

19-га студзеня 1920 году Армянская Рэспубліка была прызнаная Вышэйшаю Саюзнаю Радаю, а 23-га траўня — Урадам ЗША.

Напрацягу двух з паловаю год свае незалежнасьці, зруйнаваная вайною й галодная Арменія мужна будавала сваю незалежнасьць, патрапіла стварыць здольны да працы урад, выдаць патрэбныя законы, адчыніць 1500 школаў і Унівэрсытэт у сваёй сталіцы Эрывані, узьняць гаспадарку, пабудаваць шмат цэркваў, тэатраў, шпіталёў, стварыць сваё войска... Але сілы ворага былі большыя. У лютым 1921 году Арменія была паняволеная бальшавіцкай Чырвонай Арміяй. Праўда, вялізарным намаганьнем усяго народу, чырвоныя былі выкіненыя за межы Арменіі, але праз тры месяцы вярнуліся з большымі сіламі й Арменія была апанаваная Саветамі.

Як і іншыя народы СССР, Армяне не пагадзіліся зь няволяй. За імі была слаўная гісторыя, 20 стагодзьдзяў незалежнага дзяржаўнага жыцьця. Варта прыгадаць, што армяне былі першым гаспадарствам, якое прыняло хрысьціянства. Было гэта ў 278 годзе, на 35 год раней, чымся прыняцьце хрысьціянства імпэратарам Рымскае Імпэрыі Канстанцінам Вялікім (313 г.). Арменія, якая некалі сягала ад Каспійскага да Міжземнага мора, згубіла сваю незалежнасьць у 1375 годзе. Але дарма што блізу 600 год паняволеньня, прага свабоды не пакінула армянскі народ. Змагаюцца за вызваленьне свае двойчы страчанае незалежнасьці армяне й сяньня. Гэта іх лучыць з намі ды зь іншымі народамі, паняволенымі сяньня маскоўскім імпэрыялізмам. Аб згаданай лучнасьці сьветчыла найлепш сёлетняе сьвяткаваньне армянскага Дня Незалежнасьці.

На сьвяткаваньні былі прысутныя й шчыра віталі армянаў прадстаўнікі ўсіх нацыянальнасьцяў, якія уваходзяць у створаны кагадзе фронт паразуменьня (г. зв. „шасьцікутнік", аб якім ужо ці раз прыгадвалася ў нашай прэсе) й змаганьня за вызваленьне. Ад імя Прэзыдэнта БНР сп. Абрамчыка, які ня мог асабіста быць на акадэміі з прычыны выезду і ад імя беларускае эміграцыі вітаў армянаў Старшыня БАЗА ген. Кушэль.

Акадэмія складалася з рэфэрату аб змаганьні армянаў за сваю незалежнасьць, прачытанага Старшынёю Армянскага Камітэту, прамоваў кангрэсмэна Э. Сэлера й сп. Р. Дарбініяна, шматлікіх прывітаньняў ад прадстаўнікоў паняволеных Саветамі народаў, а таксама канцэртнай часткі.

### У СПРАВЕ ЭКСКУРСЫІ У ВАШЫНГТОН

**Управа Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы гэтым паведамляе, што прадаўжаецца запіс на экскурсыю ў Вашынгтон, якая адбудзецца 20 і 21 чырвеня г. г. Хто дасюль не запісаўся, а жадае прыняць удзел у экскурсыі, хай аб гэтым зараз паведаміць на адрыс:**

**Byelorussian Youth Ass'n of America, 17-19 Pennsylvania Ave, Brooklyn 7. N. Y.**

**Усе тыя, што ўжо запісаліся, хай неадкладна перашлюць грошы паводле экскурсыйнай інструкцыі, разасланай 12 травеня г. г., накш нельга будзе зрэалізаваць запраектаваны плян экскурсыі.**

**Управа ЗБМА**

# Баяздольнасьць Савецкай Арміі

(Канец)

Пасьля нямецкае паразы пад Сталінградам, у вайне стаўся пералом на карысьць савецкай арміі. У гэтым якраз часе Саветы атрымалі былі вялікую дапамогу зброяй, вопраткай і харчамі ад Амэрыкі. Колькасна Савецкая армія ў шмат разоў перавышала тую частку нямецкае арміі, якая змагалася на ўсходзе й была ў сябе, у сваім клімаце, прывыклая перамагаць вялікія прасторы й бездарожжы свайго краю. Дзеля ўзьняцьця дысцыпліны й пачуцьця ганарлівасьці сярод свайго камандчага складу, у Чырвонай арміі былі ўведзеныя афіцэрскія рангі й вайсковыя адзнакі б. царскае арміі, прыкладам, пагоны. На тылох нямецкае арміі дзейнічала, да таго-ж, іншая варожая армія — партызанаў. Аднак, нямецкая армія, паволі й плянава адступаючы, працягвала ўдала адбіваць напор Савецкае арміі. Чырвонаармейцы, праўда, ужо не йшлі ў нямецкі палон масава, але выпадкі дэзэрцыі з поля змаганьня былі й надалей штодзённым зьявішчам. Каб спыніць дэзэрцыю, пры Чырвонай арміі былі арганізаваныя адмысловыя аддзелы НКВД (СМЕРШ), якія знаходзіліся на тылох сваіх аддзелаў. Яны заварачвалі адступаючых, лавілі дэзэртыраў і расстрэльвалі іх тут-жа, на месцы. Гэтым чынам чырвоныя байцы знайшліся між двух агнёў. Ідучы ў наступ на нямецкія абаронныя лініі, яны яшчэ мелі надзею застацца жывымі, тады як адступаючых чакала непазьбеглая сьмерць.

Нягледзячы на ўсе вышэйзгаданыя мерапрыемствы, адступленьне нямецкае арміі было вельмі паволнае. Калі ўзяць на ўвагу, што адступленьне гэтае пачалося ад часу Сталінградзкае паразы, у пачатках 1943 г., дык на выходным абшары свайго нападу на савецкую армію ў 1941 г., г. зн. на прасторы на захад ад Бугу, немцы апынуліся адно ўлетку 1944 г. Іншымі словамі, савецкая армія патрабавала аж паўтара гады, каб выкінуць немцаў із сваіх межаў. Капітуляцыя-ж нямецкае арміі перад сьветам наступіла ў маі 1945 г. й то толькі на непахіснае патрабаваньне саюзьнікаў. Каб ня гэта, — перамажаная нямецкая армія яшчэ патрапіла-б разьбіць „непераможную" савецкую.

Калі ўзяць на ўвагу, што бальшыня нямецкае арміі знаходзілася на захадзе, а ейная частка, якая змагалася на ўсходнім фронце панесла вялізарныя страты ў няўпынным змаганьні, — гэты факт найлепш сьветчыць аб вельмі нізкой баяздольнасьці савецкай арміі. І ясна, што савецка-нямецкая вайна мела-б зусім іншыя вынікі, каб немцы ня мелі заходняга фронту з ягонымі дэсантамі і жудаснымі налётамі.

Трэба адцеміць гэтта таксама, што прычына паразы немцаў на ўсходзе была ня толькі вайсковага парадку. Можа яшчэ большую ролю згулялі тут прычыны чыста палітычныя. Калі нямецкая армія пачала займаць савецкую прастору, дык жыхарства вітала яе сьпярша ня толькі як заходнюю вызвольніцу ад камуністычнага рэжыму, але й як вызвольніцу нацыянальна-палітычную. Ды ўжо вельмі кароткі час панаваньня нямецкае ўлады на згаданых прасторах балюча расчараваў людзей. З беларускіх, прыкладам, акругаў, немцы стварылі былі г. зв. Гэнэральны Камісарыят Беларусі, як вылучна адміністрацыйную адзінку ўсходніх земляў, пакінуўшы на Беларусі той стан, які засьпелі тутка пасьля адыходу бальшавікоў. Ніжэйшая адміністрацыя й ніжэйшае школьніцтва, засталіся беларускія, запраўдная-ж улада была цалкам у нямецкіх руках. Праўда, на згаданай прасторы маглі дзейнічаць і арганізацыі харытатыўнага характару, прыкладам Самапомач, Чырвоны Крыж і інш. Аднак, і гэтыя ўстановы былі паддадзеныя вельмі дакладнаму нямецкаму кантролю.

Аднак, немцы ніколі й нідзе ня выявілі былі сьвету пляну ў дачыненьні да Беларусі на будучыню, пасьля спадзяванага пераможнага заканчэньня вайны. Нямецкая прапаганда шмат, ведама, гаварыла аб „Новай Эўропе", якую Гітлер маніўся тварыць пасьля вайны, але як гэта Эўропа мела выглядаць, — ня было ведамае нікому. Гэткае самае палітыкі немцы трымаліся ў дачыненьні да ўсіх нацыянальнасьцяў на здабытых імі ўсходніх прасторах. Дачыненьні-ж іхныя да мясцовага жыхарства былі, як правіла, вельмі благія, часта нялюдзкія.

Некаторыя факты ўсё-ж сьветчаць аб тым, што Гітлер быў прыхільнікам стварэньня адзінае недзялімае Расеі. Адным з гэткіх, вельмі пераканальных, фактаў можа быць акцыя савецкага палоннага генэрала Андрэя Уласава, якому немцы дазволілі былі арганізаваць расейскую армію з палонных і якую яны вельмі да таго-ж прапагавалі. І запраўды, пад канец 1944 году ген. Уласаў меў некалькі добра ўзброеных дывізіяў. За тое ні адна іншая нацыянальнасьць СССР, памінаючы ўсе намаганьні некаторых прадстаўнікоў гэтых нацыянальнасьцяў, дазволу на арганізацыю вайсковых адзінкаў не атрымалі. Немцы вярбавалі адно сярод гэтых нацыянальнасьцяў сьпярша ахвотнікаў, а пазьней бралі й прымусова людзей у дапаможную службу нямецкай арміі, якая не магла сама даць рады ні партызанам, ні мясцоваму жыхарству.

Гэты факт, як і шмат іншых, якія таксама здраджвалі адзінанедзялімаўскія тэндэнцыі кіраўнікоў нямецкай палітыкі, спрычыніліся да вельмі варожых у дачыненьні да немцаў настрояў сярод нерасейскага жыхарства СССР, што бясспрэчна таксама згуляла сваю ролю ў справе канчальнае няўдачы немцаў на ўсходзе.

Сяньня бальшавіцкая прапаганда ізноў бязупынку цьвердзіць аб нязвычайнай баяздольнасьці савецкай арміі, якой яна аддае першае месца ў разгроме арміі нямецкай. Наўсуперак фактам, яна угаварвае сваім грамадзянам, быццам адступленьне савецкіх войскаў аж пад Сталінград было нічым іншым, як толькі „геніяльным" манэўрам „геніяльнага гэнэраліссімуса" Сталіна, прыракаючы сваім грамадзянам, што і ў будучай вайне „непераможная" савецкая армія гэтаксама разаб'е англа-амэрыканскага „агрэсара". Але ці ў будучай вайне савецкая армія запраўды выявіць лепшыя баявыя якасьці, сказаць цяжка. Бясспрэчна, бальшавікі вядуць як тэхнічную, гэтак і маральную падрыхтоўку да будучай вайны. Памятуючы дазнаньне масавага пераходу чырвонаармейцаў у нямецкі палон, бальшавікі вядуць „усьведамленьне" сваіх грамадзян і ў гэтым кірунку. Леташнія выпадкі ў лягерох палонных на абтоку Коджы ў Карэі былі нічым іншым, як камуністычнай правакацыяй з мэтаю выклікаць рэпрэсіі ў дачыненьні да палонных з боку амэрыканскіх вайсковых уладаў, а праз гэта атрымаць сьвежы матар'ял дзеля свае прапаганды, пераканаць чырвоных байцоў, што амэрыканскі палон яшчэ страшнейшы за нямецкі.

(Канец на 4-ай бал.)

